**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 46 (867) 17 лістапада 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by




**Даўно заўважана, што з перыядычнасцю раз на дзесяць гадоў зіма прыходзіць да нас у лістападзе. Так было ў 1996-м, 2006-м, так паўтарылася і ў 2016-м. Вось толькі ці настане, у адрозненне ад трох запар цёплых зімаў, сапраўдная зіма сёлета – пакуль ніхто яшчэ не ведае.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

## Саўмін зацвердзіў графік пераносу працоўных дзён у 2017 годзе

Савет Міністраў пастановай №912 ад 9 лістапада 2016 года зацвердзіў графік пераносу працоўных дзён у 2017 годзе. Адпаведная інфармацыя змешчана на афіцыйным сайце ўрада, паведамляе БелТА. Паводле дакумента, працоўныя дні ў 2017 годзе пераносяцца з панядзелка 2 студзеня на суботу 21 студзеня; з панядзелка 24 красавіка на суботу 29 красавіка; з панядзелка 8 траўня на суботу 6 траўня; з панядзелка 6 лістапада на суботу 4 лістапада. Арганізацыям прадстаўлена права з улікам спецыфікі вытворчасці (працы) ажыццяўляць перанос працоўных дзён у іншым парадку ў адпаведнасці з заканадаўствам. Пастанова прынята паводле ч.6 арт.136 Працоўнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

*БелТА.*

**Падача абвестак па тэлефоне № 166**




ISSN 2077-8023




Віцебск

# Узвялі бельгійцы, абновяць палякі

■ Станіслаў Раманчук.

**Для многіх пакаленняў віцяблян трамвай не толькі адзін з самых любімых відаў грамадскага транспарту.**

Гэта значна нешта большае, свайго роду гордасць і адна з самых адметных славутасцей абласнога цэнтра. Справа ў тым, што віцебскі трамвай дзейнічае ўжо больш ста гадоў, ён адкрыўся на год раней, чым у Маскве, на цэлых 9 гадоў раней, чым пусцілі такі транспарт у тагачаснай сталіцы Расійскай імперыі. Нават у Мінску запусцілі трамвайныя лініі праз 30 гадоў пазней, а ўвогуле ў Беларусі акрамя сталіцы яны дзейнічаюць яшчэ толькі ў двух гарадах – Наваполацку і Мазыры. Вось чаму многія жыхары ўзрадаваліся таму, што дзве польскія кампаніі Tines і Uniber правядуць сучасную мадэрнізацыю 20 км дзейнічаючых трамвайных ліній. Дарэчы, у мінулым у губернскім цэнтры сістэму электрычнага трамвая стварылі бельгійскія спецыялісты, а палякі выдзеляць неабходныя грашовыя крэдыты на рэалізацыю гэтага праекта. Адпаведная дамоўленасць аб гэтым была дасягнута днямі ў беларускай сталіцы падчас працы юбілейнага польска-беларускага эканамічнага форуму "Добрасуседства-2016". Адна з польскіх фірм дагэтуль плённа супрацоўнічае з Беларускай чыгункай па мадэрнізацыі чыгуначных пуцей, удзельнічае ў будаўніцтве 3-й лініі мінскага метро. Віцебскія гарадскія ўлады таксама былі рады, што і кампанія Uniber таксама ўжо рэалізавала ў нашай краіне шэраг значных інвестыцыйных праектаў у сталіцы і ў Гродне. На рэалізацыю гэтага праекта ў Віцебску адводзіцца 3 гады, пасля чаго больш паловы з цяперашніх 9 трамвайных маршрутаў стануць адпавядаць міжнародным стандартам руху.

Пастаўскі раён

# Ключы ад неба

■ Кастусь Александровіч

**У многіх галінах вытворчасці зараз проста не выжыць без укаранення сучасных інфармацыйных тэхналогій, гэтыя працэсы актыўна працягваюцца і ў беларускай арміі.**

Вось і ў Пастаўскім гарнізоне напярэдадні свайго 20-годдзя мясцовы 1-ы радыётэхнічны цэнтр войск супрацьпаветранай абароны, які дыслацыруецца побач з райцэнтрам, атрымаў на ўзбраенне сучасную лічбавую радыёлакацыйную станцыю П-18БМА беларускай вытворчасці. Яна ў аўтаматычным рэжыме кругласутачна выяўляе тыпы паветраных суднаў і суправаджае іх на значнай адлегласці да 400 км. Гэта часць была сфарміравана яшчэ за савецкім часам і спачатку размяшчалася ля гарпасёлка Варапаева, а ў суверэннай Беларусі перабралася на новае месца і стала несці баявое дзяжурства на тэрыторыі былога ваеннага аэрадрома. Зараз гэта падраздзяленне адно з лепшых у складзе спецыяльнай 49-й радыётэхнічнай брыгады, атрымоўвала высокія адзнакі на розных буйных ваенных вучэннях, стрэльбах ракет на расійскім палігоне "Ашулук". У пастаўскім цэнтры служаць сапраўдным прафесіяналы, бо дзве трэціх асабовага складу ваеннаслужачыя-кантрактнікі, якія поўнасцю забяспечаны службовым жыллём. Вырашаны бытавыя ўмовы для салдат і афіцэраў на належным узроўні, пастаянна ўдасканальваецца матэрыяльна-тэхнічная база. Часць мае розныя новыя станцыі назірання за паветранай прасторай з кандыцыянерамі, перасоўныя вышынямеры і таму надзейна ахоўвае паветраныя дзяржаўныя граніцы Беларусі. Усе яны цяпер падмацоўваюцца сучасным электронным праграмным забеспячэннем. Канешне, сучасная тэхніка – гэта добра, але галоўнымі былі і застаюцца людзі ў ваеннай форме, якія дастойна выконваюць пастаўленыя перад армейцамі задачы.

Полацкі раён

# Памяць не прадаецца

■ Чэслаў Якубовіч.

**Апошнім часам многія беларусы сталі актыўна цікавіцца сваімі каранямі і жыццём продкаў, збіраць пра гэта цэлыя калекцыі.**

Па такім шляху пайшоў і апантаны калекцыянер, жыхар Полацка Мікалай Панкрат. Ён на двух паверхах свайго дома змог стварыць прыватны музей з экспазіцыямі "Эпоха Ленина" і "А. С. Пушкін. Погляд з мінулага", які пачаў дзейнічаць у 2007 годзе. Адных толькі розных бюстаў самага вядомага куміра савецкага часу ён назбіраў каля сотні. Адзін з пакояў цалкам запоўнены тагачаснай бытавой тэхнікай і многія са старых тэлевізараў і радыёпрыёмнікаў паранейшаму працуюць. Акрамя гэтага з любоўю незвычайным калекцыянерам і мецэнатам былі сабраны дзіцячыя цацкі, савецкія плакаты, граматы, значкі і іншыя прадметы, якімі карысталіся людзі старэйшага пакалення. Яму ўдалася стварыць даволі арыгінальны і багаты музей нядаўняга мінулага, які з цікавасцю наведалі за некалькі гадоў ужо 13 тысяч чалавек з 58 краін свету. Сярод іх было найболей суседзяў-расіян, але цікавіліся музеем таксама кітайцы, амерыканцы і прадстаўнікі самай аддаленай Новай Зеландыі. А сам Мікалай нядаўна здзівіў многіх, калі адмовіўся прадаць свой музей вельмі багатаму пакупніку з Расіі, які за ўсю экспазіцыю гатовы быў заплаціць кругленькую суму – 1,5 мільёна долараў. Свой учынак палачанін патлумачыў тым, што ён не хоча, каб справа ягонага жыцця і памяць ад мінулым з 50 тысяч дакументальных сведчанняў той эпохі пакідала межы роднай зямлі. Па цвёрдым перакананні калекцыянера, любая нацыя, якая не памятае свайго мінулага, не будзе мець будучыні.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 17.11.16 | | | | Пятніца 18.11.16 | | | | Субота 19.11.16 | | | | Нядзеля 20.11.16 | | | | Пан. 21.11. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +1 | +1 | +1 | +2 | +2 | +2 | +5 | +5 | +6 | +4 | +6 | +7 | +6 | +6 | +8 | +6 | +7 | +4 | +5 |
| Ціск | 744 | 743 | 744 | 744 | 744 | 744 | 745 | 745 | 747 | 749 | 750 | 749 | 747 | 745 | 748 | 753 | 753 | 753 | 753 |
| Вецер м/сек | 7 Пд | 6 Пд | 7 Пд | 6 Пд | 7 Пд | 6 Пд | 7 Пд | 8 Пд | 8 Пд | 5 Пд | 6 Пд | 8 Пд | 9 Пд | 10 Пд | 8 Пд-З | 4 Пд | 5 Пд-У | 7 Пд | 7 Пд |
| Вільготнасць | 90 | 90 | 87 | 92 | 90 | 91 | 85 | 89 | 87 | 90 | 83 | 91 | 88 | 85 | 86 | 92 | 92 | 88 | 79 |

# Аб самым надзённым

## ПРАВЯДЗЕННЕ Ў МІНСКУ ДРУГІХ ЕЎРАПЕЙСКІХ ГУЛЬНЯЎ У 2019 ГОДЗЕ ЯШЧЭ БОЛЬШ ПАЛЕПШЫЦЬ СТАНОЎЧЫ ІМІДЖ БЕЛАРУСІ Ў СВЕЦЕ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Наша краіна на выдатным узроўні правяла нядаўна хакейны чэмпіянат свету, мае нядрэнную і зараз спартыўную базу, мы ўмеем праводзіць значныя мерапрыемствы, адрозніваемся ад іншых сваёй гасціннасцю, шчырасцю. Дарэчы, частку расходаў возьмуць на сябе дзяржавы-ўдзельніцы гэтых гульняў, на тыя ж авіяпералёты сваіх каманд у Мінск.**

Да нядаўняга часу ўсе кантыненты зямнога шару, за выключэннем нашай Еўропы, рэгулярна праводзілі свае рэгіянальныя буйныя спаборніцтвы пад эгідай уласных алімпійскіх камітэтаў. Найболей, па 16 разоў прайшло Панамерыканскіх і Азіяцкіх спартыўных гульняў, нават на чорным кантыненце мацнейшыя атлеты спаборнічалі ўжо 10 разоў на стадыёнах розных дзяржаў Афрыкі. У гэтым сэнсе еўрапейцы ад усіх прыкметна адсталі і толькі 5 гадоў назад спартыўны функцыянер Патрык Хікі ўнёс прапанову праводзіць у нашай частцы свету сваю Еўрапіяду, за што выказаліся потым 47 з 49 дзеючых еўрапейскіх нацыянальных НАКаў.

Сталіцай першых Еўрапейскіх гульняў стаў летась азербайджанскі Баку і на даволі высокім узроўні правёў у чэрвені 2015 года такія спаборніцтвы па 30 відах спорту. Тады яўна там дамінавалі спартсмены Расіі, якія заваявалі 164 медалі, у тым ліку 79 залатых, а беларусы былі сёмымі ў агульнакамандным заліку. Сёлета напрыканцы кастрычніка ў беларускай сталіцы адбылося, як вядома, 45-е пасяджэнне Генасамблеі Еўрапейскіх алімпійскіх камітэтаў і па выніках галасавання Мінску даверылі правядзенне летам 2019 года чарговых гульняў. Нагадаем, што першапачаткова такое права было прадастаўлена 7 гарадам Галандыі, але там урад адмовіўся ў мінулым годзе выдзяляць свайму НАКу сродкі ў памеры 60 млн. еўра на такі буйны турнір з дзяржбюджэту.

Потым меркавалася, што пасля Баку наступныя спаборніцтвы лепшых атлетаў Еўропы можа прыняць Расія ў Сочы і Казані, мелася нават адпаведнае пагадненне. Аднак серыя гучных допінг-скандалаў сярод многіх рускіх спартсменаў і каманд перашкодзілі гэтаму. Вось тады і даверылі іх правядзенне беларускай сталіцы, тым больш, што такую ідэю падтрымала кіраўніцтва краіны, а сам гэты праект быў пад пагрозай зрыву, як высветлілася неўзабаве. Канешне, нам з азербайджанцамі ў плане ўласнага піяру і патрачаных сродкаў (называюць нават суму 5 млрд. долараў) цяжка будзе спаборнічаць. Таксама няпроста будзе Мінску правесці буйны турнір, максімальна набліжаны да фармату Алімпіяд.

Невыпадкова грамадская думка ўнутры нашай краіны падзялілася як на прыхільнікаў, так і на праціўнікаў правядзення буйнога спартыўнага форуму на беларускай зямлі на фоне няпростай эканамічнай сітуацыі. Шчыра кажучы, я адношу сябе да першых і лічу, што плюсаў для Беларусі ўсё ж будзе болей, найперш у плане стварэння яшчэ больш станоўчага іміджу нашай краіны ў свеце. Еўраалімпіяда ў Мінску акрамя гэтага дасць таксама яшчэ адзін штуршок у плане ўдасканалення інфраструктуры нашай сталіцы і паляпшэння здароўя нацыі. Добра памятаю, як рэзка змяніўся тагачасны цэнтр БССР у лепшы бок, калі там рыхтаваліся ў 1980 годзе прыняць толькі занальны футбольны турнір той летняй Алімпіяды.

Зараз можна парадавацца за мінчан, што ў іх і так нядрэнныя спартыўныя збудаванні давядуць да лепшых сусветных узроўняў, хутчэй завершаць рэканструкцыю цэнтральнага стадыёна "Дынама". Нарэшце і ў студэнцкай вёсцы пасля Еўрапейскіх гульняў дабавяцца яшчэ новыя жылыя карпусы на 2 тысячы месц і іншыя дадатковыя аб'екты сервісу і харчавання, бо там плануюць пасяліць каля 6 тысяч спартсменаў. Паколькі гэтыя старты будуць асвятляць самыя сучасныя медыяхолдынгі, то і Беларускаму тэлебачанню ў плане далейшага тэхпераўзбраення нешта перападзе. Таксама да нас прыедуць дзясяткі тысяч замежных турыстаў, паколькі абяцаюць для іх бязвізавы рэжым уезду.

Наша краіна на выдатным узроўні правяла нядаўна хакейны чэмпіянат свету, мае нядрэнную і зараз спартыўную базу, мы ўмеем праводзіць значныя мерапрыемствы, адрозніваемся ад іншых сваёй гасціннасцю, шчырасцю. Дарэчы, частку расходаў возьмуць на сябе дзяржавыўдзельніцы гэтых гульняў, на тыя ж авіяпералёты сваіх каманд у Мінск. Беларускі лідар запэўніў еўрапейцаў, што ў нас усё зробяць для таго, каб "соревнования были добрыми, душевными и чтобы вы никогда не пожалели о принятом решении провести Европейскую олимпиаду в Беларуси".

Для беларусаў зараз найбольш важна, каб чарговыя Еўрапейскія спартыўныя гульні ў Мінску аказаліся прэстыжнымі, каб на іх разыгрывалася шмат ліцэнзій для ўдзелу на прадстаячай Алімпіядзе-2020 у Токіо. Ад гэтага, як вядома, залежыць прыцягненне сур'ёзных міжнародных спонсараў, а таксама магчымае павелічэнне даходаў ад рэкламы такіх буйных стратаў, фактычна перадалімпійскіх чэмпіянатаў Еўропы па многіх відах спорту. Гэта нядрэнна, што наша краіна дзякуючы спорту высокіх дасягненняў яшчэ болей адкрываецца са станоўчага боку ўсяму свету, розным еўрапейскім структурам, што дае нам таксама шанцы займець болей і міжнародных інвестараў.

## Дзень за днём

**А. Лукашэнка пагадзіўся павялічыць аб'ёмы гандлю з Польшчай. На айчынных прадпрыемствах у студзені-жніўні звольнілі на 82 тысячы работнікаў болей, чым прынялі на працу. Беларусь прыме другія Еўрапейскія спартыўныя гульні ў 2019 годзе. Міністэрствы абароны ЗША і Беларусі падпісалі план двухбаковага супрацоўніцтва ў 2017 годзе. Беларусь прапанавала Польшчы купляць электраэнергію з будучай АЭС. Гандлёвыя сеткі выступілі супраць абмежаванняў на продаж алкаголю. Падатковыя інспекцыі выявілі 50 тысяч "дармаедаў" і накіравалі ім патрабаванні ўплаціць спецыяльны збор.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Паветраныя ўдары Расіі і Сірыі па мірным насельніцтве ў Алеппа назвалі ў ААН "злачынствам гістарычнага маштабу", разабрацца ў гэтым просяць Міжнародны суд.

**Бельгія.** Старшыня ЕС Дональд Туск абвінавconfigurаціў Расію ў спробах перашкодзіць ходу расследвання катастрофы малайзійскага лайнера рэйса MH17 над Данбасам.

**Венесуэла.** Цэнтрвыбаркам прыпыніў падрыхтоўку рэферэндуму аб адстаўцы прэзідэнта М. Мадуры, абстаноўка ў краіне яшчэ больш абвастрылася, не хапае ежы, свету, лекаў.

**Расія.** Палітолаг В. Салавей пацвердзіў, што Крэмль вельмі ўстрывожыла гатоўнасць 10 сведкаў трагедыі з Боінгам даць паказанні следчым з Галандыі ўзамен на гарантыі бяспекі.

**Літва.** Начальнік аб'яднанага штаба войск генерал-маёр В. Вайкшнорас пацвердзіў, што краіна разглядае магчымасць размяшчэння зенітна-ракетных комплексаў ЗША.

**Нарвегія.** Міністр абароны І. Эрыксен пацвердзіла, што на тэрыторыі краіны ўпершыню з канца II Сусветнай вайны на ваенный базе ў Вернесе размесцяцца марскія пехацінцы ЗША.

**Польшча.** Намеснік главы МЗС Р. Тшаскоўскі заявіў, што агліччане не атрымаюць доступу да адзінага рынку 27 краін ЕС, калі адмовяцца ад свабоднага перамяшчэння людзей.

**Кітай.** На закрытым з'ездзе КПК заявілі, што за 3 гады ў краіне распачалі па ініцыятыве Сі Цзіньпіня крымінальныя справы аб карупцыі на мільён чыноўнікаў і дзяржслужачых.

**Расія.** Краіна, як заявіла газета "Ведомости", рэанімiравала лозунг 30-х гадоў "пушкі замест масла", накіравала 167 мільярдаў пенсійных рублёў на патрэбы Міністэрства абароны.

**Бельгія.** Прэм'ер-міністр Ш. Мішэль паведаміў кіраўніцтву ЕС, што краіна не гатова падпісаць гандлёвы дагавор паміж Канадай і Еўрасаюзам, але потым пагадзілася на гэта.

**Філіпіны.** Пры новым прэзідэнце Р. Дутэртэ за 4 месяцы падчас кампаніі па барацьбе з наркотыкамі ў краіне адбылося некалькі тысяч пазасудовых забойстваў, свет у шоку.

**Расія.** Мастацкі кіраўнік тэатра "Сатырыкон" К. Райкін заявіў, што краіну хочуць вярнуць у сталінскія часы, заклікаў грамадскасць даць адпор таму, што адбываецца.

**Пакістан.** Тэрарысты-смяротнікі "Ісламскай дзяржавы" ноччу напалі на паліцэйскі каледж у горадзе Кветта, забілі 60 спаўшых навучэнцаў, паранілі яшчэ 165 чалавек.

**Ватыкан.** Падчас аўдыенцыі біскуп Віцебскі А. Буткевіч і архімандрыт С. Гаек перадалі Папу Францыску яго кнігу "Імя Бога – Міласэрнасць" у перакладзе на беларускую мову.

**Расія.** Услед за злобнымі нападкамі на Украіну інфармагенцтва "Рэгнум" абзывала Беларусь "звар'яцелай недадзяржавай", беларускую нацыю і яе мову "выдуманай".

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск**. Фінансавы эксперт В. Іасуб папярэдзіў, што пры правядзенні сур'ёзных рэформ краіна праз 2-3 гады магла б выйсці на ўстойлівы рост эканомікі, інакш стагнацыя надоўга.

**Астравец.** З завода сілавых машын Санкт-Пецербурга спецыяльным цягніком даставілі турбагенератар вагой 440 тон для першага энергаблока ўзводзімай Беларускай АЭС.

**Мінск.** А. Лукашэнка загадаў захаваць сталічны мотавелазавод з брэндамі "Аист" і "Мінск", наладзіць на ім паўнацэнную вытворчасць, хоць былі прапановы завод закрыць.

**Гомель.** Той жа "Гомсельмаш", як заявіў эканаміст Я. Раманчук, спажывае цяпер больш бюджэтных сродкаў, чым могуць заплаціць усе "дармаеды" Беларусі з нова-га збору.

**Дзятлава.** Журналісты партала TUT.BY адшукалі ў вёсцы Кажухоўцы 68-гадовага хворага дзеда, які дажывае век у паўразбуранай хаце без пашпарту, пенсіі, света і цяпла.

**Мінск.** Пакет заказаў кампаніі "Белцяплоізаляцыя" на 2017 годы сфарміраваўся толькі на 10 %, у ёй працуе каля 900 чалавек і лепшыя спецыялісты пачалі адсюль звальняцца.

**Стаўбцы.** Міліцыя затрымала двух п'яных мінчан ва ўзросце 19 і 25 гадоў, якія вечарам збілі 13-гадовага падлетка, паранілі яго з пнеўмапісталета, ім пагражае да 10 год турмы.

**Мінск.** У нас, як заявіў бізнесмен М. Андрэеў, ужо кожнае 4-е прадпрыемства стратнае, у краіне сапраўдныя праблемы толькі пачынаюцца, іх трэба закрываць альбо прадаваць.

**Магілёў.** Горад упрыгожылі скульптуры чатырох львоў з 17-метровымі гранітнымі стэламі, якія ўстанавілі на аднаўленым пасля рэканструкцыі Пушкінскім мосце на Дняпры

**Мінск.** Экс-сакратар Саюза журналістаў РФ І. Якавенка заявіў, што расійскія СМІ распальваюць толькі ненавісць ва ўкраінскім канфлікце, сеяць хаос у галовах людзей.

**Гродна.** Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю пачало праверку тытунёвай фабрыкі "Нёман" па навязванні магазінам краіны незапатрабаваных марак цыгарэт.

**Мінск.** Нечаканай смерцю на 66-м годзе жыцця ўдавы У. Мулявіна Святланы Пенкінай зацікавіўся Следчы камітэт, але, хутчэй усяго, яна памерла ад сардэчнага прыступу.

**Брэст.** Праз суд незаконна звольнены майстар Брэсцкага вагоннага ўчастка Беларускай чыгункі А. Клачкоў аднавіўся на працы і атрымаў больш 20 млн. руб. кампенсацыі.

**Гродна.** У вёсцы Гліняны на 2 месяцы аб'явілі санітарны каранцін з-за хворай на шаленства лісы з вакцынацыяй усіх дамашніх жывёл, адловам бадзяжных сабак, катоў.

**Мінск.** Суд пакараў былога дырэктара мясцовага лясгаса 7,5 гадамі калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці за атрыманне хабару ў суме 35 тысяч долараў.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# У МПЗ распавялі, колькі грошай сабралі з дармаедаў і калі трэба плаціць падатак




■ FINANCE.TUT.BY

**Беларусы, якія ў мінулым годзе ўдзельнічалі ў фінансаванні дзярж–выдаткаў менш 183 дзён, заплацілі на пачатак лістапада 1 мільён 314,1 тысячы новых рублёў падатку, паведамлялі FINANCE.TUT.BY ў МПЗ. У ведамстве ўдакладняюць, што ў статыстыцы ўлічваюцца і тыя сумы, якія да 1 ліпеня ўнеслі «добраахвотныя» дармаеды.**

Дармаедамі, якіх прыйшлі «лісты шчасця», трэба заплаціць падатак да 15 лістапада ўключна, нагадваюць у падатковай. Праўда, тыя, хто атрымае паведамленне напярэдадні або пасля дэдлайну, змогуць унесці патрэбную суму на працягу 30 каляндарных дзён.

- Зараз апрацоўваецца вельмі шмат дадзеных, якія нам падаюць іншыя органы. Яны апрацоўваюцца вельмі старанна, каб не было выпадкаў неабгрунтаванага прад'яўлення паведамлення на выплату падатку, - растлумачылі ў прэс-службе МПЗ. - Тыя, хто атрымае паведамленне пасля 15 лістапада, змогуць выплаціць падатковы збор на працягу 30 каляндарных дзён. Гэтая норма прадугледжана дэкрэтам № 3 «Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрымантва».

Як мы ўжо пісалі, беларусам пакуль накіравалі 50 тысяч паведамленняў на выплату падатку. «Больш актуальная інфармацыя будзе вядомая крыху пазней», - удакладнілі ў прэс-службе ведамства. Але трэба разумець, што не ўсе, хто атрымаў паведамленні з'яўляюцца плацельшчыкамі.

Як і раней, тыя, хто знойдзе ў сваёй паштовай паштовай скрыні апавяшчэнне на выплату падатку, могуць на працягу 30 каляндарных дзён прынесці ў падатковую дакументы, якія пацвярджаюць удзел у фінансаванні дзяржаўных выдаткаў. І пакуль падаткавікі будуць разглядаць паперы, збор плаціць не трэба.

Нагадаем, да 31 траўня беларусы маглі самастойна паведаміць падаткавікоў, што нідзе не працавалі ў 2015 годзе і не плацілі падаткі. Для іх памер збору зменшалі на 10%, але выплаціць падатак трэба было да 1 ліпеня. У МПЗ паведамілі, што «добраахвотнікі» ўнеслі ў дзяржбюджэт каля 1 мільёна рублёў.

Атрымліваецца, што астатнія «ўтрыманцы» заплацілі пакуль крыху больш за 310 тысяч рублёў падатку. Калі ўлічыць, што падатак за мінулы год складае 360 рублёў, то выходзіць, што збор пакуль заплацілі менш 870 чалавек. Праўда, гэта без уліку таго, што ў кагосьці збор мог быць менш - калі, напрыклад, у 2015 годзе былі хоць нейкія прыбыткі, з якіх ужо палічылі падатак.

Раней улады прагназавалі, што пад дзеянне дэкрэта аб дармаедстве могуць трапіць каля 400 тысяч беларусаў.

Дэкрэтам ПРЭЗІДЭНТА № 3 «Аб папярэджанні Сацыяльнага ўтрыманства» Да пачатку старонкі Устанаўліваецца абавязак грамадзян Беларусі, якія пастаянна пражываюць у нашай краіне замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, якія не ўдзельнічалі ў фінансаванні дзяржаўных расходаў або ўдзельнічалі ў такім фінансаванні менш 183 каляндарных дзён у мінулым годзе, па выплаце збору ў 20 памеры базавых велічынь.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Докшыцы.** З жыхарамі раёна правёў прамую тэлефонную лінію па хвалюючых пытаннях падчас выязнога прыёму старшыня Камітэта дзяржкантролю Беларусі Леанід Анфімаў.

**Полацк.** Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця выдзеліў крэдыт у суме 9 млн. еўра на мадэрнізацыю вадаканала і будаўніцтва новай ачышчальнай станцыі па стандартах ЕС.

**Дуброўна.** Кіраўнік дзяржавы пагадзіўся прызначыць Алега Лындзіна новым старшынёй мясцовага райвыканкама, пасаду намесніка главы вобласці заняў Уладзімір Пенін.

**Ушачы.** Да наступлення халадоў у раёне ўдалося выдаліць шкодны баршчэўнік на плошчы больш 400 гектараў, з іх на 50 – хімічным спосабам, але яго праблема застаецца.

**Талачын.** Работнікі мясцовага ДЭУ-63 справілі наваселле ў новым маласямейным інтэрнаце на 12 кватэр з прасторнымі пакоямі, бытоўкай, сучаснай кухняй.

**Віцебск.** Пасля пратэстаў гараджан глава вобласці М. Шарстнёў пабываў на месцы будучай будоўлі Сафійскага сабора, работы ў гэтым парку былі прыпынены.

**Мёры.** У 3 гадзіны ночы малады 21-гадовы вадзіцель на VW-Jetta не справіўся з кіраваннем, зляцеў у кювет, ударыўся ў дрэва і памёр неўзабаве ў рэанімацыі райбальніцы

**Бешанковічы.** Сям'я Юліі і Сяргея Адамовічаў з аграгарадка Ржаўка сталі пераможцамі рэспубліканскага праекту "Валадар вёскі – 2016", у якасці прыза ім дастаўся малады бык.

**Бабінічы.** Вечарам на нерэгулюемым пешаходным пераходзе ў мясцовым аграгарадку кіроўца насмерць збіў мужчыну, цяжка траўміраваў жанчыну і скрыўся з месца ДТЗ.

**Лепель.** Мясцовы аўтапарк № 14 набыў яшчэ два новыя пасажырскія аўтобусы ПАЗ-4234 на 30 пасадачных месц кожны для абслугування прыгарадных і гарадскіх маршрутаў.

**Браслаў.** Дэлегацыя азёрнага краю на чале з главой раёна У. Дранеўскім пабывала ў Польшчы і падпісала пагадненне аб супрацоўніцтве з Аўгустоўскім паветам.

**Орша.** У пасёлку Балбасава пабудавалі з дзяржпадтрымкай 60-кватэрны арэндны дом, жыллёвыя ўмовы палепшылі 170 мясцовых жыхароў, 3 шматдзетныя сем'і, двое сірот.

**Паставы.** Падчас следства міліцыя выявіла і затрымала 24-гадовага беспрацоўнага хлопца, які скраў з фермы ААТ "Хацілы-агра" быка і схаваў яго ў адным з нежылых дамоў.

**Віцебск.** Адзін з 12 удзельнікаў трэніровак у нацыяналістычным атрадзе "Русіч" прыгразіў рэзаць "свядомых патрыётаў" на вуліцах, як толькі Расія дасць знак, але гэта быў троль.

**Глыбокае.** У Федэрацыю хакея Беларусі запрасілі і адзначылі вучня Чарневіцкай СШ Рамана Аніськовіча за стварэнне электроннай мадыфікацыі нацыянальнага чэмпіянату.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Асацыяцыя выдаўцоў рэгіянальнай прэсы Беларусі падсумавала вынікі конкурсу “Найлепшая рэгіянальная газета года 2016”



**На здымку: Вінцук Вячорка (справа), мовазнаўца і член журы, уручае дыпломы фіналістам і пераможцам конкурсу сярод журналістаў.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

**Асацыяцыя выдаўцоў рэгіянальнай прэсы Беларусі, у якую ўваходзіць і газета “Вольнае Глыбокае”, падсумавала вынікі конкурсу “Найлепшая рэгіянальная газета 2016 года”.**

Найлепшай рэгіянальнай газетай названа баранавіцкае выданне Intex-press.

У намінацыі «Найлепшы сайт газеты» перамог «Інфа кур’ер» (Слуцк).

Сярод журналістаў быў праведзены конкурс на найлепшы матэрыял па наступных намінацыях: «Найлепшы аналітычны матэрыял», “Найлепшае фота ў газеце”, “Гісторыя і краязнаўства”, “Расследаванне і зваротная сувязь”, “Найлепшая сацыяльная акцыя газеты”, “Найлепшае відэа на сайце газеты”, “Найлепшы матэрыял на тэму адукацыі і культуры”, “Найлепшы матэрыял на беларускай мове”.

У намінацыі “Найлепшы матэрыял на беларускай мове” перамог Руслан Равяка з артыкулам “Наша мова для дзяцей робіцца замежнай” (“Intex-press”, Баранавічы).

Фіналістамі ў гэтай намінацыі таксмама сталі: Сяржук Кійко – “Беларуская мова ў войску” (“Інфа-Кур’ер”, Слуцк) і **Уладзімір Скрабатун –** “Гэтая студня – вечная!” (“Вольнае Глыбокае”, Глыбокае).

*Ул. інф.*

# Суд у Браславе прыгаварыў да 4 гадоў турмы чачэнскага тэрарыста: мужчына перавозіў нелегалаў

**У Браславе судзілі грамадзяніна Чачэнскай Рэспублікі, які перавёў праз мяжу пяцярых в’етнамцаў, паведамляе «СБ Беларусь Сегодня».**

35-гадовы праваднік каардынаваў дзеянні па дастаўцы перабежчыкаў з Масквы ў Беларусь. Дзякуючы компасу і тапаграфічнай карце ён ведаў размяшчэнне памежзастаў і нават сігнальных расцяжак. Нелегалы начавалі ў лесе, выконваючы ўсе меры засцярогі.

Падрабязнасці распавёў старэйшы памочнік пракурора раёна Сяргей Гарбус:

— Нягледзячы на прафесійны падыход да справы, нелегалы пакінулі сляды. Затрымалі іх па сігнале беларускіх памежнікаў ужо на тэрыторыі Латвіі. Цікава, што 20-25-гадовыя грамадзяне В’етнама, з якіх складалася група, да апошняга былі ўпэўненыя, што ім атрымалася прарвацца на тэрыторыю Польшчы. Кожны з іх заплаціў за пераход ад 10 да 15 тысяч еўра.

Высветлілася, што правадні к — добра вядомая ў Чачні асоба: яго судзілі за шэраг злачынстваў тэрарыстычнай накіраванасці. У складзе бандфармаванняў ён падрываў цягнікі, абстрэльваў міліцэйскія патрулі, аказваў узброены супраціў пры затрыманні. Потым супрацоўнічаў са следствам і паказваў схроны зброі.

За садзейнічанне арганізацыі незаконнай міграцыі групай асоб па папярэдняй змове ўраджэнца Чачні асудзілі на 4 гады пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Прысуд пакуль не ўступіў у законную сілу — абвінавачаны настойвае на тым, што ён адзін накіроўваўся ў Нямеччыну лячыць сухоты, а в’етнамцаў выпадкова сустрэў па дарозе.

*Паводле “СБ”.*

# У Глыбоцкім раёне абрабавалі 92-гадовую пенсіянерку

**Супрацоўнікі Глыбоцкага РАУС затрымалі двух падазраваных у здзяйсненні разбойнага нападу на 92-гадовую пенсіянерку ў адной з вёсак раёна, паведамілі ў прэс-службе УУС Віцебскага аблвыканкама.**

Каля дзевяці гадзін вечара 11 лістапада жанчына звярнулася ў дзяжурную частку РАУС і паведаміла, што яе абрабавалі двое невядомых. Мужчыны зайшлі ў яе незачынены дом, пад пагрозай прымянення фізічнай сілы выкралі грошы ў суме Br90 і схаваліся. На месца здарэння выбыла следча-аператыўная група.

«Начальнік РАУС узначаліў аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы, якія вывелі міліцыянтаў на падазраваных. Абодва зламыснікі – жыхары Глыбоцкага раёна — неўзабаве былі затрыманыя», — распавялі ва УУС.

Раённы аддзел Следчага камітэта распачаў крымінальную справу па ч. 2 арт. 207 (разбой) КК.

*пп.by*

**З 1 студзеня 2017 года ўсе грамадзяне, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі Беларусі, вызваляюцца ад выплаты дзяржаўнай пошліны за ўезд (уваход) і знаходжанне ў памежнай зоне. Пра гэта паведамляе прэс-служба Дзяржпагранкамітэта.**

# Плаціць за знаходжанне ў памежнай зоне больш не трэба




Цяпер пры наведванні рэжымнай тэрыторыі неабходна ўсяго толькі мець з сабой дакумент, які сведчыць асобу (пашпарт, пасведчанне бежанца або дазвол на жыхарства).

Яшчэ адна актуальная для беларусаў змена — тэрмін дзеяння пропускаў у памежную паласу павялічваецца з 1 года да 2-х гадоў. Дзяржпошліна за дадзеную паслугу складзе 0,4 базавай велічыні.

Плаціць яе не прыйдзецца жыхарам памежнай зоны, работнікам арганізацый, якія вядуць гаспадарчую дзейнасць у памежнай паласе і шэрагу іншых катэгорый грамадзян, для чаго падрыхтаваны адпаведны праект указа.

У новым годзе зменіцца парадак наведвання памежнай зоны і памежнай паласы для замежных грамадзян. Так, тэрмін дзеяння пропуску ў памежную зону павялічыцца з 1 года да 2-х гадоў, а стаўка дзяржаўнай пошліны за яго выдачу складзе 0,4 базавай велічыні.

Парадак атрымання пропуску ў памежную паласу будзе такім жа, як і для грамадзян Беларусі. Бясплатна трапіць у памежную паласу зможа іншаземец, які мае пропуск у памежную зону.

***

- Памежная зона — участак мясцовасці, які прылягае да дзяржаўнай мяжы ў сярэднім на глыбіню да 30 км.
- Памежная паласа — участак мясцовасці, які прылягае да дзяржаўнай мяжы ў сярэднім на глыбіню да 10 км.

*пп.by*

# Стагадовы рубеж пераадолелі 464 жыхары Беларусі

Стагадовы рубеж пераадолелі 464 жыхары Беларусі, паведамілі карэспандэнту БелТА ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны. Сярод рэгіёнаў краіны лідарам па колькасці доўгажыхароў традыцыйна з’яўляецца Гродзенская вобласць: тут на 1 кастрычніка бягучага года было 89 чалавек старэйшых за 100 гадоў. На другім месцы – Віцебская вобласць (70 чалавек), на трэцім - Мінская вобласць (68). У Гомельскай вобласці пражывалі 66 чалавек, якія адзначылі свой векавы юбілей, у Мінску – 59, у Брэсцкай вобласці – 58, у Магілёўскай вобласці – 54. Трэба адзначыць, што жанчыны пераважаюць сярод айчынных доўгажыхароў у шэсць разоў: свой 100-гадовы юбілей ужо адзначылі 399 жанчын і 65 мужчын. Паводле даных Мінпрацы і сацабароны, на 1 кастрычніка гэтага года ў рэспубліцы налічвалася пяць беларусаў ва ўзросце 110 гадоў і старэйшых, з іх два чалавекі, якія пражываюць у Гродзенскай і Мінскай абласцях, знаходзяцца ва ўзроставай катэгорыі 115 гадоў і старэйшыя. Згодна з агульнапрынятай у герaнталогіі класіфікацыі, да пажылых належаць людзі ва ўзросце з 60 да 75 гадоў, да людзей старэчага ўзросту – старэйшыя за 75 гадоў, да доўгажыхароў – пасля спаўнення 90 гадоў. Паводле міжнародных крытэрыяў насельніцтва краіны лічыцца старым, калі ўдзельная вага жыхароў ва ўзросце 65 гадоў і старэйшых перавышае 7 працэнтаў. Цяпер кожны сёмы беларус (14,4 працэнта) знаходзіцца ў гэтай узроставай катэгорыі.

*Алена Прус - БЕЛТА.*

# Беспрацоўны выкраў у калекцыянера з Пастаў тры самавары

**У Пастаўскі РАУС** 12 кастрычніка **звярнуўся** 26-гадовы **калекцыянер, які заявіў што з яго незачыненай адрыны выкралі тры самавары.**

Адзін з выкрадзеных самавараў датаваўся XIX стагоддзем, быў буйнага памеру і, акрамя таго, пасярэбраны. Усе тры асобнікі старадаўняга кухоннага начыння, арыентыровачным коштам 300 рублёў, чакалі ў адрыне рэстаўрацыі.



Крымінальнаму вышуку атрымалася высвятліць, што самавары выкраў 47-гадовы беспрацоўны жыхар Паставаў, які хутка прадаў іх іншаму мясцоваму калекцыянеру.

Выкрадзеныя рарытэты канфіскаваныя, па факце іх крадзяжу 10 лістапада ўзбуджана крымінальная справа па частцы 1 артыкулы 205 КК, паведамляе аддзяленне інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Віцебскага аблвыканкама.

*ННВ.*

# Сэксуальная рэвалюцыя ў двукоссі і без двукосся

*“Чувство – огонь, мысль – масло. Чувство само по себе еще не составляет поэзии; надо, чтобы чувство было рождено идеею и выражало идею. Бессмысленные чувства – удел животных; они унижают человека”.*
*Василий Белинский*



**Фадзей Шымуковіч,**
*педагог, пенсіянер, г. Дзісна*

Старажытнагрэчаскі філосаф-матэрыяліст Арыстып Кірэнейскі, амаль 500 год да новай эры казаў: “Уладарыць над задавальненнем не той, хто зусім устрымліваецца ад яго, але той, хто карыстаецца, не захапляючыся пачуццём да яго, падобна таму, як кіруе караблём або канём не той, які не выкарыстоўвае іх у справе, а той, які накіроўвае іх туды, куды хоча”. Усё тое, што стварыла прырода, натуральнае. Але чалавек, як цар прыроды, павінен карыстацца яе дарамі разумна. На тое ён і чалавек. На жаль, мы дазваляем сабе шмат лішкаў, ператвараючыся ў жывёл.

Узяцца за аловак прымусіў мяне артыкул у нашай раённай газеце пад загалоўкам “Засцерагчы дзяцей ад парнаграфіі”. Мала таго, што мы самі акунуліся з галавой у свет сэкса і парнухі, дык яшчэ для прыбытку ўцягваем у гэту страшную справу дзяцей.

Чалавечая сэксуальнасць – гэта не біялагічны фенамен, а фенамен культуры. Гэтыя сюжэты не з’яўляюцца прыватнымі, яны ўключаны ў жыццё грамадства. Невыпадкова, напрыклад, рэпрэсіўнасць у палавой маралі з’явілася ў нас у трыццатыя гады, у перыяд глабальнай контррэвалюцыі, калі ў грамадстве, у людзей вытравілася ўсё чалавечае. Мы максімалісты, нам падавай усе перамены – палітычныя, эканамічныя, сацыякультурныя – неадкладна, і ў той жа час (нельга забывацца пра гэта) мы вядзем перабудову на хвалі кансерватыўнага масавага ўсведамлення.

Старая багаслоўская ідэя аб грахоўнасці палавога жыцця пастаўлена пад сумнеў. На змену прыйшла сэксуальная рэвалюцыя, якая ўсе каноны па трактаванні палавога жыцця перавярнула з ног на галаву. Для адных свабодны сэкс – гэта дабро, якое дае чалавеку больш свабоды і больш радасці. Але нямала людзей, для якіх гэта зло ў самых цяжкіх грахах – ад разбітых сямей, асірацелых дзяцей пры жывых бацьках да захаплення сэксуальнай злачыннасцю. Дык што ж гэта – дабро або зло? Сфармулюю пытанне некалькі інакш: чаго больш у гэтай сэксуальнай рэвалюцыі – разрухі або стварэння, таму што ўсялякай рэвалюцыі ўласцівы гэтыя палярныя пачаткі?



Згодна традыцыйнай, хрысціянскай маралі, якая вызначае афіцыйныя паводзіны, сэкс – з’ява адмоўная. Сэкс, эроціка – гэта заўсёды дрэнна, ад лукавага. Негатыўныя адносіны да сэксуальнасці афарбоўвалі еўрапейскую культуру, асабліва Новага часу. У больш раннія перыяды, у сярэднія стагоддзі – справа была інакшая. Як пісаў Бахцін у сваёй геніяльнай кнізе аб Рабле – і гэта выйшла ў свет, – існавалі двайныя нормы паводзін, разам з афіцыйнай аскетычнай культурай існавала народная, карнавальная, смехавая культура, у якой многія забароны з афіцыйнай сферы не дзейнічалі, і гэта таксама было легальна. І галоўная заваёва сэксуальнай рэвалюцыі, якую ніхто адмяніць не можа, гэта растучае разуменне ў грамадстве таго, што ў сваім абыдзеным усведамленні людзі ведалі заўсёды: сэксуальнасць – з’ява не адмоўная, а дадатная, крыніца задавальнення, радасці, стыдзіцца іх не патрэбна, баяцца таксама. Гэта звязана з агульнай перыеарыентацыяй культуры. На першае месца выходзіць індывід з яго мнагалікім жыццём. Рэабілітавана цела, рэабілітавана пачуццё. Ідэя процілегласці цялеснага і духоўнага, як нязменнага і ўзвышанага, прычым ніжэйшае павінна прыціскацца вышэйшым, аказалася перагледжанай і практычна, і тэарэтычна. Выявілася намнога большая разнастайнасць форм сэксуальнага жыцця, эротыкі, да іх сталі адносіцца з вялікім разуменнем, больш цярпліва.

Разуменне і цярпімасць да сэкса нярэдка называюць у нас уседазволенасцю. Так, хвалі сэксуальнай рэвалюцыі прынеслі многа пены, а з ёй і смецця. Але давайце разбярэмся ў тым, што лічыць тут дазволеным, а што недазволеным.

“Дазволена ўсё, што не забаронена законам” – фундаментальны прынцып прававой дзяржавы. Іншая справа, што не ўсё дазволенае добра і неабходна, таму што акрамя нормаў права, якія засцерагаюць толькі фундаментальныя інтарэсы грамадства, існуюць яшчэ нормы маралі і эстэтычныя нормы – людзі заўсёды стараліся будаваць сваё жыццё, у тым ліку і сэксуальнае, па законах прыгажосці, акрамя таго, ёсць індывідуальныя нахільнасці, тое, што добра для аднаго чалавека, зусім непрымальна для другога, і калі размова ідзе пра паводзіны пары, гэта накладвае некаторыя абмежаванні. Першае правіла паводзін на пасцелі: “Усе жанры добрыя, акрамя маркотнага”. Рабіць патрэбна тое, што табе падабаецца, што цікава табе, а не тое, што здаецца правільным і дапусцімым княгіні Марыі Іванаўне. Але тут жа ўзнікае другое правіла, якое абмяжоўвае першае: “Добра толькі тое, што добра дваім”. Непрымальнае для вашага партнёра аўтаматычна непрымальна для вас, чалавек, які любіць свайго партнёра, адмаўляецца ад спакусаў, непрымальных для партнёра, або, калі спакусы для яго непераадольныя, мяняе партнёра, таму што з гэтым чалавекам яму добра ўсюды, але дрэнна на пасцелі.

Наша крытыка ўсёдазволенасці вельмі характэрна для савецкага мыслення. Ярлык уседазволенасці як ідэалагічнае клішэ ўзнік не сёння, а ў самыя застойныя часы. Па сутнасці, гэта была ідэалагічная ахова таталітарнага грамадства, у якім чалавеку нічога не дазвалялася. “Дазволена ўсё, што не забаронена законам”. Людзі самі ў сваім асяродку, з улікам нормаў маралі, свайго разумення прыгажосці і сваіх індывідуальных прыхільнасцяў, вырашаюць, што з вялізнай сферы дазволенага яны будуць сабе дазваляць, а чаго рабіць не будуць.

Задаю сабе пытанне: “Чаму раптам развіццё дэмакратыі ўдарыла па маралі, духоўнасці?” Адказваю: “Таму што дэмакратыя без культуры гэта з’ява суровая. Таму, што мы гэта паняцце – дэмакратыі – на ўзроўні абывацельскім апашляем. Падмяняем дэмакратыю ўсеагульным дзяленнем. Многія скрыўленні, грымасы, казусы – плады нашай неадукаванасці, нашага бескультур’я.” Як тут быць? Як павысіць культурны патэнцыял сэксуальнай рэвалюцыі, якая ідзе па планеце, па тэрыторыі былога СССР? І як весці адукацыю, сэксуальную адукацыю, з улікам мясцовай спецыфікі? Ці шукаць тут зараз, калі адбываецца новая сустрэча культуры і веры, саюза з духавенствам, з царквой, або разлічваць на іх садзейнічанне савецкай культуры ў “грахоўнай справе” не даводзіцца?

Тут, па-мойму, недакладнасць. Прычым гэта тычыцца не толькі сэксуальнасці, але і ўсяго астатняга. Дэмакратызацыя нічога новага сама па сабе не стварае. Яна толькі паказвае тое, што раней існавала схавана. Нам зараз не падабаецца стан нашага грамадства, мы самі сабе не падабаемся. Агрэсіўныя, жорсткія, злыя, не ўмеем весці палеміку, слухаць і чуць іншых. Мы выхаваны ў духу крывадушнасці, абмана. Мы стваралі добры імідж: гаварылі правільныя словы, дружна асуджалі зло і пошласць, але палец аб палец не ўдарылі ў барацьбе супраць гэтага зла. Цяжка даць параду ў адным кароткім артыкуле. Але пачынаць патрэбна з таго, што неабходна ўсебакова вывучыць абставіны, каб выпрацаваць праграму дзеяння. У іншым выпадку, будзем вымушаны засцерагаць нашых дзяцей не толькі ад парнаграфіі, а ад больш сур’ёзнай маральнай “хваробы”.

## Зямля і лёс

Пад зоркай застылай
У мароз нарадзіла
Матуля ў снежні на свет.
Пад ветру злы посвіст
Душу даў наросхрыст,
Прызначыў лёс Божы Свет.
Спаўна на ўсю моцу
У старонцы глыбоцкай
Мяне выпрабоўваў мой лёс.
Я з ім заблукала
І выйсце шукала,
А ён да Дзісёнкі прынёс.
Дзе Янка, Дзісёнка,
Ардынскіх старонка,
І мне не чужая зямля.
Карміла, туліла,
Узнімала на крылы,
Як маці, сваё немаўля.
Зямлёй беларусаў
Сваёй ганаруся.
Тут працай здабыты куток,
Дзе дрэвы ля хаты
Вясной светлым садам.
Як рай, у ім складаю радок.
Каронай ківае –
Мне яблынька раіць –
Сама выбірае памер.
Шапочуцца вішні:
– Дакладней будзь з рыфмай.
Ім дзякуй за добры намер.
На поўныя грудзі
Я дыхаю, людзі.
І край наш цудоўны люблю.
Напоўніцу сілы
Аддам зямлі мілай,
Аб ёй свае песні пяю.

## Я ж цябе чакала

Ясны веташок
Над зямлёй узышоў,
Мілавіца ззяла.
На спатканне зноў
Любы не прыйшоў –
Я ж цябе чакала.
Ты, салоўка мой,
Не сумуй са мной:
Ружа-кветка звяне,
Не зашэпча гай,
Весела ручай
Бегчы ўдаль не стане.
Ты мяне забыў,
Мабыць палюбіў,
Прыгажэй, другую.
Боль у душы нашу,
Ветрыка прашу:
Перадай, сумую.
Ужо ніколі нам
Не сустрэцца там
Пад вярбінай ніцай.
Ціхім берагам
Светлы сум аддам –
Рэчка зажурыцца.

*Людміла Ардынская*



# “Зробім паветра чысцейшым”



**“Курэнне – гэта працэс спальвання рэчыва (здробненых тытунёвых лісцеў) для атрымання араматычнага дыму”. Так званы “араматычны” дым – гэта не што іншае, як гарачая сумесь шкодных газаў, параў, вадкасцяў і цвёрдых рэчываў, якія ўзнікаюць у выніку згарання змесціва цыгарэты (цыгары, папяросы і т.п.).**

■ **Ю. Самасуева,**
*загадчыца аддзела гігіены Глыбоцкага РЦГЭ*

Хімічны склад тытунёвага дыму вельмі складаны. У залежнасці ад якасці, гатунку і складу тытуню ў ім адрозніваюць 1200 кампанентаў, з іх звыш 40 – канцэрагенныя, г.зн. якія выклікаюць розныя злаякасныя пухліны.

Курэц з цыгарэтай, распаўсюджваючы тытунёвы дым, прымушае чалавека, які не курыць і знаходзіцца з ім у адным памяшканні, пасіўна курыць, хоча ён таго ці не. Спачатку меркавалася, што тытунёвы дым аказвае на людзей, якія не курыць, толькі раздражняльнае дзеянне ў тым сэнсе, што ў іх запаляецца слізістая носа і вачэй, адзначалася сухасць у роце. Па меры назапашвання інфармацыі станавілася ясна, што людзі, якія не курыць і жывуць або працуюць разам з курцамі, па-сапраўднаму падвяргаюць рызыцы сваё здароўе, у іх развіваюцца захворванні, уласцівыя курцам (сардэчна-сасудзістыя захворванні, захворванні органаў дыхання, ЖКТ, касцяной сістэмы, вачэй, скуры, анкалагічныя захворванні розных сістэм чалавека). Дзеці, якія падвяргаюцца пасіўнаму курэнню, часцей хварэюць інфекцыйнымі рэспіраторнымі захворваннямі, у тым ліку пнеўманіяй і бранхітам, чым дзеці, у доме якіх не кураць.

Пасіўны курэц, знаходзячыся ў памяшканні з актыўнымі курцамі на працягу адной гадзіны, удыхае такую дозу некаторых газападобных складовых частак тытунёвага дыму, якая раўнасільная скурванню паловы цыгарэты. Такім чынам, у атмасферу вакол курца трапляе таксічных кампанентаў у шмат разоў больш, чым у арганізм самога курца. Менавіта гэтая акалічнасць абумоўлівае асаблівую небяспеку для навакольных.

Бяспечнага ўзроўню ўздзеяння на чалавека другаснага тытунёвага дыму не існуе. Ні вентыляцыя, ні фільтры, нават разам узятыя, не могуць знізіць уздзеянне дыму да ўзроўняў, якія лічацца дапушчальнымі.

Сусветная арганізацыя аховы здароўя вылучыла **некалькі прапаноў па абароне правоў грамадзян, якія не кураць:**

■ неабходна, перш за ўсё, зрабіць свабоднымі ад тытунёвага дыму ўласныя кватэры, пад’езды, дамы;

■ ператварыць у вольныя ад тытунёвага дыму працоўныя месцы, прамысловыя і сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, навучальныя ўстановы, рэстараны, бары, гасцініцы, дыскатэкі, тэатры і кінатэатры, месцы адпачынку і збору людзей;

■ ствараць грамадскія арганізацыі, аб’яднання ў абарону правоў грамадзян дыхаць чыстым паветрам, у абарону здароўя дзяцей і падлеткаў.

Ва ўмовах нашай краіны **абараніць нашых грамадзян можна шляхам:**

● змены агульнага менталітэту насельніцтва ў дачыненні да ўласнага здароўя наогул і да курэння, у прыватнасці, уключэння шырокай грамадскасці, СМІ ў барацьбу супраць тытунёвага смогу вакол нас, бескультур’я курцоў, што разбураюць сваё здароўе і здароўе тых, хто знаходзіцца побач;

● выхавання у курцоў культуры курэння: курыць толькі ў адведзеных і дазволеных для гэтага месцах, не кідаць недакуркі, пачкі ад цыгарэт і г.д.;

● абвяшчэння тэрыторый, свабодных ад курэння (паркі, скверы, месцы адпачынку грамадзян, спартыўныя пляцоўкі, стадыёны, прыпынкі грамадскага транспарту і да т.п.), але толькі пры ўмове іх рэальнага ператварэння ў такія і прыцягнення парушальнікаў да матэрыяльнай і адміністрацыйнай адказнасці.

Курэнне не з’яўляецца натуральнай патрэбай арганізма, як, напрыклад, ежа, вада або сон. І хоць чалавек сам выбірае: курыць або не курыць, але свабода выбару не дае курцу правы травіць навакольных.

Права дыхаць чыстым паветрам, вольным, у тым ліку і ад тытуню заслугоўваюць усе – ад малога да вялікага, у любым месцы і ў любы час года!

## 40-гадовы юбілей

**40-гадовы юбілей 4 лістапада адсвяткаваў Дзісенскі дзіцячы сад.**



**Фадзей Шымуковіч,**
*педагог, г. Дзісна*

2 лістапада 1976 года ў Дзісне адкрыў свае дзверы тыповы дзіцячы сад на 6 груп. А да гэтага часу дзіцячы сад цясніўся ў прыстасаваным аварыйным памяшканні. На той час дзетак у Дзісне было шмат, што нават новае памяшканне не вырашала праблему ахопу дзяцей месцамі ў садку. Таму яшчэ быў калгасны дзіцячы сад у прыгараднай вёсцы Восьцевічы, на 2 групы. Хоць Восьцевічы ўпрытык размешчаны з горадам. А яшчэ ў Дзісне, у мікрараёне, дзе размешчаны жылы сектар перакачваючай станцыі “ЛПДС” быў сад на 2 групы для жыхароў гэтага мікрараёна. Кожны вучэбны год Дзісенская СШ папаўнялася не менш як 40-50 першакласнікамі.

Зараз карціна змянілася. Калгасны дзіцячы сад у Восьцевічах даўно закрыты, а памяшканне пад офіс выкупіла Дзісенскае лясніцтва. Няма ў вёсцы дзяцей. Даўно закрыты дзіцячы садок і ў раёне ЛПДС. У асноўным тыпавым садку набіраюцца з горам папалам 4 групы. А калі ў населеным пункце рэзка змяншаецца дзіцячы кантынгент, то гэта яўны прызнак вымірання гэтага населенага пункта.

У 1976 годзе ў Дзісне працавалі сярэдняя школа з кантынгентам парадку 400 вучняў і васьмігодка з кантынгентам 170-180 вучняў. Калі пабудавалі тыпавую школу, то іх аб’яднаелі. Вось ужо трэці год Дзісенская сярэдняя школа не можа набраць нават 200 вучняў.

Шматпакутная, дарагая мне, мая Дзісна, у якой я ўжо жыву 44-ы год! Па волі лёсу стала ты апошнім прыстанішчам пенсіянераў. Амаль кожны другі жыхар – пенсіянер.

## МНС інфармуе
**на 15.11.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 610;
Гібель людзей – 68, з іх 1 дзіця;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 18;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

## У Беларусі пазадарожнікам забароняць заязджаць у заказнікі для спаборніцтваў



**У Глыбоцкім раёне апошнія некалькі гадоў імкліва развіваецца рух, які называецца трофі-рэйды. Грамадзяне актыўна купляюць пазадарожнікі, квадрацыклы і праводзяць так званыя “пакатушкі”.**

■ **Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

У гэтым, вядома ж, няма нічога дрэннага, а наадварот, людзі атрымліваюць адрэналін, выплеск энергіі, утвараюцца групы па інтарэсах, але, на жаль, не заўсёды ралі-рэйды праводзяцца ў адпаведнасці з прыродаахоўным заканадаўствам. Пасля такіх “пакатушак” па лясах, палях, заўсёды можна знайсці зламаныя або пашкоджаныя маладыя дрэвы, знішчаную лясную посцілку, велізарныя ямы, разрэзы, пакінутыя на малых рэках і ручаях.

Ад усяго гэтага церпіць прырода, дрэвы, расліны, жывёлы, шмат якія з раслін, што трапляюць пад колы гоншчыкаў, занесены ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь. А самі ж дзеянні ўдзельнікаў “пакатушак” патрапляюць пад артыкул адміністрацыйнага кодэксу нашай краіны.

У Законе Рэспублікі Беларусь “Аб ахове навакольнага асяроддзя” з’явіўся артыкул, які забароніць пазадарожнікам удзельнічаць у мерапрыемствах у лясах, балотах, на палях і на вадзе, калі падчас іх будзе аказана шкоднае ўздзеянне на прыродныя комплексы.

***Артыкул 54-1 Кодэкса Рэспублікі Беларусь “Аб адміністрацыйных правапарушэннях”.***

*Правядзенне спартыўных, спартыўна-масавых, культурна-відовішчных, іншых масавых мерапрыемстваў, здзяйсненне турыстычных падарожжаў, у тым ліку з выкарыстаннем механічных і іншых транспартных сродкаў, самаходных машын, у спецыяльна не прызначаных для гэтых мэтаў месцах, размешчаных у натуральных экалагічных сістэмах (лясных, лугавых, балотных, водных і інш.), не дапускаецца, калі ў выніку іх правядзення будзе аказана шкоднае ўздзеянне на прыродныя комплексы і аб’екты альбо існуе пагроза такога ўздзеяння.*

Артыкул уступіць у сілу з 22 студзеня 2017 года.

Трофі-рэйды на пазадарожніках, тэст-драйвы балотаходаў і іншай тэхнікі, турзлёты і іншыя мерапрыемствы актыўнага адпачынку часта праходзяць у нашай краіне на асабліва ахоўных прыродных тэрыторыях (ААПТ).

Выбар месцаў у Беларусі вялікі, але людзі чамусьці едуць менавіта на асабліва ахоўныя прыродныя тэрыторыі. У выніку мы не раз станавіліся сведкамі таго, як па-варварску былі знішчаны ўнікальныя месцы. Церпіць раслінны і жывёльны свет, глеба, вада. Абаронцы прыроды канстатуюць: прыкладаў з кожным годам усё больш, далей так працягвацца не можа.

Самі ўдзельнікі спаборніцтваў, як паказвае практыка, далёкія ад экалагічнай культуры: пра наступствы не думаюць, дзеля перамогі ў гонцы скарачаюць маршруты, робяць новую каляіну і яшчэ больш пашкоджваюць усё жывое.

Цяпер на арганізатарах будзе ляжаць адказнасць за забеспячэнне аховы навакольнага асяроддзя. Калі яны не гатовыя ўзяць на сябе адказнасць, ім не дазволяць праводзіць мерапрыемства яшчэ на этапе ўзгаднення. У выпадку трофі-рэйдаў трэба прадумваць і ўзгадняць маршрут, у выпадку турзлёту – прадумаць збор і вываз смецця. Таксама цяпер у выпадку парушэнняў не будуць вышукваць і лавіць за руку канкрэтнага вінаватага, а пакараюць арганізатараў. Штрафамі і пакрыццём шкоды навакольнаму асяроддзю.

